# НАВІНКІ

19 - 26 сьнежня 2002 №30(79) Кошт свабодны


Наступны нумар 9.01

# Што было б, калі б Хрыстос нарадзіўся ў сучаснай Беларусі..





Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: kampramat@tut.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.

Нумар падпісаны да друку 19.12.2002г., а 00.01. Тыраж 3000 экз. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у друкарні ТДА «Знаменіе», г. Менск, вул. Кальварыйская, 24. Заказ № 365

## Навіны ў тэстах

### Ці ў курсе вы апошніх падзеяў?

**1. Што прынялі дэпутаты ПП НС РБ?**
А) Бюджэт
Б) 100 грам
В) Іслам

**2. 17 сьнежня адзначаўся дзень беларускага:**
А) Кіно
Б) Віно
В) Даміно

**3. Які падатак у 2003 годзе павялічыцца ўдвая?**
А) На зямлю
Б) На ваду
В) На паветра

**4. Які вядомы беларускі грамадзкі дзеяч пераехаў жыць у Прагу?**
А) Зянон Пазьняк
Б) Аляксандар Лукашэнка
В) Васіль Быкаў

**5. Пераможцам якога расейскага конкурсу стала вядомая беларуская сьпявачка?**
А) Міс Расея 2002
Б) Місіс Расея 2002
В) Містэр Расея 2002

**6. Які беларускі футбаліст стаў галоўным трэнэрам маскоўскага клюбу Тарпэда-ЗІЛ?**
А) Васілій Баранаў
Б) Аляксандар Хацкевіч
В) Сяргей Алейнікаў

**7. Што зьбіраюцца рэфармаваць стратэгі з АГП, якія прадставілі сваю новую канцэпцыю?**
А) Армію
Б) Урад
В) АГП

**8. Які код будзе мець беларуская нацыянальная валюта з 2003 году замест ранейшага BRB?**
А) USD
Б) RUR
В) BYR

**9. Хто ўпершыню адважыўся адмяніць прэзыдэнцкі дэкрэт?**
А) Прэзыдэнт
Б) Палата Прадстаўнікоў
В) Савет Рэспублікі

**10. Кім працуе Віктар Івашкевіч, які знаходзіцца на "хіміі" ў Баранавічах?**
А) Кур'ерам
Б) Дылерам
В) Пастаўшчыком

**11. Якія новыя гатункі солі будзе выпускаць ААТ "Мазырсоль"?**
А) З кропам, сельдэрэем і перцам
Б) Зь мясам і салам
В) Зь півам і водкай

**12. Якая бясплатная кансультацыя для студэнтаў адчынілася ў Менску?**
А) Жаночая
Б) Іміграцыйная
В) Юрыдычная

**13. Які замак выяўлены на новай 50-тысячнай купюры НБ РБ, якая выйшла 20 сьнежня?**
А) Мірскі
Б) Нясьвіскі
В) Іф

**14. Які рэгіён заяўлены на ўключэньне ў сьпіс ЮНЭСКА "Шэдэўры нематэрыяльнай спадчыны"?**
А) Панямоньне
Б) Прыдняпроўе
В) Палесьсе

**Правільныя адказы**: 1-А, 2-А, 3-А, 4-В, 5-Б, 6-В, 7-А, 8-В, 9-Б, 10-А, 11-А, 12-В, 13-А, 14-В

# Усё пра сэкс

## З жыцьця аднаго вядомага газэтчыка

**Браць ад жыцьця ўсё – вось галоўнае жыцьцёвае крэда генэральнага мэнэджэра БДГ Пятра Марцава**




Ва ісьціну сказана: «Несправядзімыя путі галоўных рэдактараў». Пакуль кормчы *Народнай Волі* Сярэдзіч заклапочаны выбіваньнем фінансаваньня, «рабочы» Івашкевіч з Маркевічам – сядзеньнем на хіміі, а рулявы *Саўбелкі* Якубовіч – стварэньем холдынгу, галоўны камандзір *БДГ* Пётар Марцаў аддае перавагу іншым клопатам. Як і належыць фабрыканту адной з буйнейшых буржуазных газэт Беларусі, Марцаў бавіць час на вялікасьвецкіх раўтах і банкетах. Куцёж, вядома, справа не заганная. Аднак, як паказвае досьвед іншых калег па журналісцкаму цэху, быць галоўным рэдактарам адной з буйнейшых незалежных газэт – справа даволі рызыкоўная, таго й глядзі, на хімію загрыміш. Таму й прыходзіцца браць ад жыцьця ўсё.
Таму мы ніколькі не зьдзівіліся, калі сустрэлі спадара Марцава з карышамі на стрып-шоў «Міс Вялікія Сіські», які адбываўся ў модным клюбе «Алькатрас» у ноч з 13 на 14 сьнежня. Хоць білет на вечарыну каштаваў усяго нейкіх 50 штук, але нам прыйшлося паўстрымаць свае кашалькі, і таму мы засталіся ў абсалютным няведаньні, у каго насамрэч самыя вялікія буфэра ў горадзе (інакш матэрыял стаяў бы на культурнай паласе). І нам нічога не заставалася, акрамя як задумацца над сэнсам павышанага інтарэсу галоўнага *БДГ*-шніка да вялікіх сісек і як гэта можа адбіцца на твары галоўнай буржуазна-дэмакратычнай газэты краіны. Падчас абмеркаваньня ў нас узьнікла некалькі варыянтаў, зь якіх мы пакінулі два больш-менш верагодныя:
1. Пётар Марцаў зацікавіўся такім шоў проста як нармальны мужык, якога прыцягваюць вабноты супрацьлеглага полу. Гэта такжа натуральна, як бы галоўная рэдактарка *БДГ* Сьвятлана Калінкіна была б заўважаная на шоў «Містэр Вялікі Чэлес». На твары газэты гэта не адаб'ецца, затое магчыма ўжо адбілася на твары самога Марцава (атрымаў наганяй ад жонкі).
2. Больш верагодная. Марцаву як бізнэсоўцу не дае спакою слава амэрыканскага порна-варацілы Лары Флінта. Тады Марцаў замышляе вялікія пераўтварэньні ў стылістыцы газэты з мэтай павелічэньня тыражоў. Палітычна-аналітычная пісаніна мала каму цікавая, іншая справа – «клубнічка», з дапамогай якой можна заткнуць за пояс канкурэнтаў зь *Белорусской газеты*. Тут магчымая й зьмена назвы газэты, як гэта зьбіраецца зрабіць Якубовіч, які мяркуе перайменіць сваю *Саўбелію* ў *Беларусь сегодня*. Новае Марцаўскае дзецішча можаназвывацца, напрыклад, *Белорусская Эротическая Газета*, *Белорусский Деловой Секс* або нешта накшталт таго.
Але сьпяшаемся паўстрымаць ня ў меру заклапочаных чытачоў: не ляціце, заламіўшы галаву да бліжэйшага паштовага аддзяленьня афармляць падпіску на *БДГ* – ніякага беларускага *Playboy* не мяркуецца. Як паведамілі нам шэраговыя супрацоўнікі *БДГ*, ніякіх прынцыповых зьменаў у канцэпцыі выданьня кіраўніцтва не прадугледжвае. Так што ўсё аказалася нашмат банальней: «Падумаеш, мужык пагуляў трохі. Нельга хіба?» ●

**П.К.,**
гал. рэд. газ. *Н*

## РэвалЮцыя

### Мы ведаем!

На прайшоўшым нядаўна ў Лёндане Кангрэсе па вызваленьні Іраку абмяркоўваліся шляхі выхаду гэтай арабскай краіны з крызысу, а таксама жыцьцё Іраку і яго статут на міжнароднай арэне пасьля Хусэйна. У канфэрэнцыі прыняла ўдзел і латвійская дэлегацыя, якая прапанавала свой прыбалтыйскі шлях да дэмакратыі і ўсеагульнага дабрабыту насельніцтва.
Кіраўнік латвійскай парлямэнцкай дэлегацыі Оскарс Кастэнс паведаміў, што «змагароў супраць Садама Хусэйна цікавіў гістарычны вопыт Латвіі, у прыватнасьці, выхад з-пад улады савецкага рэжыму і атрыманьне незалежнасьці».
Латвійскія дэпутаты запрасілі прадстаўнікоў іракскай апазыцыі наведаць Латвію дзеля далейшага знаёмства з унікальным гістарычным вопытам.
Вопыт сапраўды ўнікальны. Сярод самых разнастайных спосабаў разводзіць лахоў на бабкі «вопыт латвійскага антыбальшавіцкага супраціву для іракскіх апазыцыянэраў» сапраўды можна занесьці ў Залатую кнігу Астапа Бэндэра.
Па-першае, з гісторыі, якую ня ўсе іракскія апазыцыянэры мелі шанец добра вывучаць у сваіх мэдрэсэ, больш вядома пра латышскіх стралкоў пад камандай таварыша Берзіна, якія дапамагалі бальшавікам усталёўваць савецкую ўладу ў тым ліку.
Па-другое, з латышскіх дысыдэнтаў мы добра ведаем Лайму Вайкуле, Валдзіса Пельша і Раймонда Паулса, але бярэ сумнеў, што Маэстра будзе вучыць кагосьці граць на раялі.
Але вось факт: некалькі год таму выбухнулі скандалы, дзе былі задзейнічаныя чальцы латвійскага парлямэнту ў сувязі з гомасэксуальнай пэдафіліяй.
Відавочна, што толькі пасьля «рашучай перамогі» над савецкай уладай латвійскія рэвалюцыянэры маглі аддацца любімай нацыянальнай загане, якую жорсткі таталітарны рэжым палымяным патрыётам сувора і недэмакратычна забараняў.
Канешне, сьвірэпы бацька Хусэйн са сваім патэрналісцкім шарыятам таксама забараняе іракскім дысыдэнтам праяўляць свае свабодалюбівыя памкненьні – але некалькі сэмінараў у разьняволенай латвійскай атмасфэры ў кампаніі «жрыц свабоднай любві» дадуць любому апазыцыянэру моцны стымул для змаганьня зь любой дыктатурай.

# Ці маўчы, ці Гімн крычы!

Працягваецца гістэрыя расейскіх уладных структураў з нагоды актывізацыі беларускага боку па аб'яднаньню братэрскіх народаў у адзіную дзяржаву. Дзесяткі прапановаў варыянтаў гімну Саюзнай дзяржавы з абодвух бакоў сьведчаць аб шалёнай зацікаўленасьці беларусаў і расейцаў у хутчэйшым наданьні гэтай міждзяржаўнай малітве належнага ёй статусу. І




нядаўняе сьвяточнае праслухоўваньне прадстаўленых на конкурс варыянтаў мусіла засьведчыць павагу і больш дакладна акрэсьліць рамкі будучага выбару. Аднак шаноўныя чальцы камісіі, ды і ўвесь беларускі народ цалкам, у чарговы раз былі абражаныя чарговай уладнай сошкай з Расеі зь ліку тых, якія лічаць магчымым спыніць лавіну імкненьня родасных народаў да зьліцьця. Нейкі нікому невядомы выканаўчы сакратар Нацыянальнага інстытуту гербу і сьцягу Зьміцер Іваноў, што прадстаўляў на паседжаньні камісіі Расею (і хто толькі яго туды ўсунуў), дадумаўся ляпнуць, што беларусам і расейцам няма пра што сумесна маліцца, бо «...Саюзная дзяржава – ня больш чым надбудова ў выглядзе ўладных структураў». І як язык у Ірада павярнуўся сказаць гэткае, чым жа жывуць яшчэ нашыя народы, акрамя веры ў любімых прэзыдэнтаў ды надзеі на хуткае аб'яднаньне. Велічы Саюзнай дзяржавы павінен папярэднічаць вялікі Гімн, а ўсялякім чынушам, што ганьбяць сьвятое, усе іхныя словы будуць пасьля гучна прыпамінацца, дзякуй богу, сумесныя межы працягнуцца далёка на поўнач... ●

## Чачэнскі сындром

Колькі ўжо год мінула ад пачатку расейскай антытэрарыстычнай апэрацыі ў Чачэніі, а вынікаў яе ня бачна да гэтай пары. Фэдэральныя войскі ўсё больш уцягваюцца ў партызанскую вайну, маладыя салдаты працягваюць гінуць за нікому незразумелую ідэю. Нават нязьменны камандуючы аб'яднанай групоўкай на Паўночным Каўказе быў нядаўна адхілены ад выкананьня сваіх абавязкаў.
Але, здаецца, ува ўсёй гэтай каніцелі рыхтуецца карэнны пералом. Па словах прадстаўнікоў гэнэральнага штабу узброеных сілаў РФ да сканчэньня апэрацыі засталіся лічаныя месяцы, калі ня дні. Падставай для гэтай аптымістычнай ноты сталі паказаньні палоннага баевіка, які заявіў, што «ў цэлым становішча баевікоў дрэннае, не хапае мэдыкамэнтаў, ежы, цёплых рэчаў, многія ўдзельнікі бандаў маюць хранічныя захворваньні. Амаль усе хварэюць на тубэркулёз і фурункулёз. Шырока распаўсюджаны пэдыкулёз і дыстрафія».
Як бачым, незаконныя чачэнскія фармаваньні зьяўляюцца сапраўднымі рассаднікамі ўсялякай заразы. Узьнікае пытаньне: як пры прысутнасьці такой колькасьці хваробаў чалавек яшчэ ў стане трымаць у руках аўтамат і аказваць супраціўленьне добра экіпіраваным і накормленым рэгулярным часткам. І дзіўна, чаму да гэтай пары доблесныя спэцназаўцы ня могуць надаваць па срацы барадатым і ўшывым тубэркулёзьнікам ●



Паспрабуйце здагадацца, хто з гэтых прызыўнікоў пойдзе служыць у спэцназ, а хто стане баевіком.

**Максім Багдановіч**

# ГАРБАЦЬ ЗА СВАЁ

АБВЕСЬНІК АНТЫЧУКОЦКАГА ВЫЗВАЛЕНЧАГА СУПРАЦІВУ

# Памятка беларусу

Нарэшце айчынны ўрад сьпіхнуў сваю долю акцыяў (некалі) сумеснага беларуска-расейскага прадпрыемства «Славнефть». Шчасьлівым уладальнікам беларускай дзесяціны стаў Раман Абрамовіч – адзін з найбольш раскручаных алігархаў Эўразіі. 18 сьнежня пачнецца фінальны аўкцыён, дзе нафтахімічныя букмэкеры ставяць акурат на абрамовіцкую кабылку «Сибнефть».

Пасьля эпапеі з азіяцкай піўной навалай («Балтика» і ПІТ), зьяўленьне ў Беларусі самаго Абрамовіча безумоўна абгрэйдзіць наш апазыцыйны дыскурс. Апошні традыцыйна пакоіцца на крытыцы антынацыянальнай натуры рэжыму бацькі Лу, які ў сваёй палітыцы быццам бы матывуецца генэтычнай агідай да ўсяго беларускага.

Існуе некалькі вэрсіяў расшыфроўкі храмасомнага коду Прэзыдэнта. Адны даводзяць, што віной паталягічнай цягі да ўсходняга вэктару, распродажу краіны і здачы незалежнасьці – расейскі гемаглябін, характэрны для генатыпу Ўсходняй Беларусі, адкуль паходзіць шклоўскі кіслінг.

Іншыя клянуцца, што выявілі двайніка лідэра дзяржавы ў цыганскім квартале на Зімняй, што ў Менску. Маўляў, пажылы чавэла прагаварыўся, што ў 50-х гадах ягоны табар кінуў спальнікі каля вёскі Александрыя, дзе, кажуць, дзеўкі любяць смуглявых дзікуноў. Пры адсутнасьці надзейнай кантрацэпцыі ягоны спэрматазоід і стаў фатальным для Беларусі.

Гэта яшчэ што! У інтэрнэце жывуць і такія, што ўсур'ёз прапануюць тэзыс аб жыдоўскіх каранях гаранта. Ягонюю скрайнюю плоць абяцаюць хутка загрузіць у фармаце PDF кожнаму, хто верыць у жыда-масонскую змову як прычыну продажу Радзімы.

Фігура Абрамовіча тым больш сымбалічная, што сынтэзуе ў сабе ўсе тры апісаныя архетыпы этнічнага акупанта:

1) кавarнага сэміта-хаміта,
2) нахабнага «новага рускага»,
3) нямытага дзікуна (для тых, хто ня ведае, будучы гаспадар беларускай нафтахіміі – губэрнатар Чукоткі).

З пункту гледжаньня палітычных дывідэндаў, нацыянальнасьвядомай эліце найбольш выгодна раскручваць трэці брэнд. У постсавецкай масавай сьвядомасьці, чукчы – настолькі зацюканая і ўшчэрбная раса (гл. анэкдоты), што сама думка аб падпарадкаваньні дзецям тундры выклікае летальны шок у ахоўнікаў эўрапейскасьці Беларусі. Няма і долі сумневу, што рух супраціву чукоцкаму ігу па маштабах пераплюне ўсе былыя акцыі нацыянальнага непадпарадкаваньня: выліваньне «Маладым Фронтам» на зямлю партыі сьвежакупленай «Балтики», кампанію Нашай Нівы «Кахай сваё!», месячнікі беларускай мовы ТБМ і нават антыцыганскі пі-ар БНФ сярэдзіны 90-х. Прапануем гатовы макет будучага папяровага рупару нацыянальнай рэвалюцыі, якая вымяце паганай мятлой чукоцкіх акупантаў і іхных пляшывавусатых халуёў з роднай зямлі. Не – вынішчэньню нацыянальнай эліты. Няхай на харугвах сапраўдных патрыётаў залатымі літарамі будзе ўпісаны лёзунг вызваленьня: «Гарбаць на свайго!» ●

## Нацыянальныя вытокі беларускага рэжыму



Кожны дзень прыносіць новыя доказы, што тэорыя аб пятай чукотскай калёне ў беларускай палітыцы – ня блеф, а навукова даказаная ісьціна.

Каб зразумець гэта дастаткова задацца пытаньнем, чаму бацька захапляецца зімовымі відамі спорту. На гэта зь бюджэту штогод адсьцёгваюць мільёны баксаў на будаўніцтва спартовых палацаў і іншых зімовых атракцыёнаў. Імпэт да лыжных эстафэтаў і гульні з клюшкай ня проста хобі, бзік, жаданьне жыць доўга, як старазапаветны прарок Мафусаіл, і быць спартовай, як мадэль Галятэя. Гэта генны рэфлекс, мэтафізычны, звышнатуральны, і неангажаванаму ў расавыя штуды абывацелю недасяжны. Беларускі набоб унасьледаваў каханьне да клюшкі і лыж ад гармонаў сваіх далёкіх суродзічаў – намадаў, якія ў пошуках ежы (салату з карлікавай бярозкі і марошкі) гарцавалі вярхом на сахатых па прасторах тундры. Аднойчы з полюсу прыйшоў ляднік. Заўзятыя гледачы мыльнай опэры «паўночнае зьзяньне» былі вымушаныя ўносіць ногі на поўдзень. Абяцанай зямлёй для аднаго з выводкаў запалярных бамжоў стаў цэнтар Эўропы. Тут мешкаў таленавіты гіпэрбарэйскі народ беларусы, культуры баявых тапароў і шнуравой керамікі.

Талерантныя беларусы каменнага веку мелі глупства даць чужынцам часовую рэгістрацыю. Які фатальны крок!



Вы не задумваліся, чаму ўвесь пасьляледніковы пэрыяд мы перажываем фазу культурнай і дзяржаўнай дэградацыі. Ва ўсім вінаватыя чужынцы! Госьці з холаду прынесьлі да нас, цывілізаваных краманьёнцаў і нэандэртальцаў лаянку, гарэлку (чым яшчэ суграваецца чалавеку ва ўмовах адвечнай мерзлаты), полавую разбэшчанасьць (гл. гасьцёвая сэксуальнасьць сярод чукчаў). Героі кніг Міклухі-Маклая і сёньня працягваюць глуміцца над нашай незалежнасьцю. Днём прыкідваюцца нармалёвымі падданымі РБ, паліруюць лаўкі аўдыторыяў самых прэстыжных ВНУ, рэвізуюць прэзыдэнцкія дэкрэты, праводзяць сэлектарныя нарады, сьпяваюць псальмы нацыянальнага гімну, а пасьля ўначы накідваюць эскізы чукоцкага сусьветнага панаваньня.

Вам хочацца доказаў? Іх ёсьць у мяне. Прынамсі, антрапалягічных. Любы скептык, параўноўваючы шнобелі твару прэзыдэнта і ісляндзкай сьпявачкі Б'ёрк, адразу прыйдзе да высновы, што прашчуры субчыка, якога сусьветнае грамадзтва трымае за матку беларускага роя, глушылі нерпу ў Бэрынгавым праліве. Дык доўга мы будзем цярпець на сваім карку нахабнага самаедь! Баста! Хопіць цярпець чукоцкае іга! Раскадзіруйся ад палітычнага сну, крывіч, і бухні набатам ва ўсе званы!!! ●



# З Калядамі і Новым Годам!

Калядныя сьвяты заўсёды лічыліся часам прабуджэньня сэнтымэнтальных пачуцьцяў у дачыненьні да бліжэйшых і знаёмых. Сёньня рабіць гэта ўсё цяжэй і цяжэй. Фантом глябалізацыі бадзяецца па плянэце, пакідаючы пасьля сябе спаленую зямлю – уніфікаваны па амэрыканскаму шаблёну сьвет: кола, гамбургеры й МакМаўс прапануюцца на кожным вуглу як лепшыя сродкі нагадаць блізкаму чалавеку аб сабе. Усё стандартна і пазбаўлена нейкага інтыму. Возьмем калядныя паштоўкі, якія адпаведна традыцыі прынята дасылаць знаёмым. Мэтафізыка каляднай паштоўкі – гэта часьцінка тваёй асабістасьці і твайго быцьця, якую ты адрываеш ад сябе і пасылаеш блізкаму. Ну і што мы маем на самой справе? Калядна-навагоднія паштоўкі, якія прапануюць карабейнікі, пястраць усе як адная інфэрнальнымі пачварамі (Дзед Мароз, феі, Сьнягурка), або пазеваночнымі жывеламі сярэднерасейскай раўніны (зайцы, ваўкі, мядзьведзі). Ніводнага намёку на экзатычнасьць або індывідуалізм адпраўшчыка. Калі вы адпраўляеце такую паштоўку, трэба разумець, што вы заафіл, або эзатэрык-люцыфэрыст. Дзякуй алаху, што ўсе паштоўкі аднатыпныя, таму вас у такіх дзівацтвах нехто не западозрыць. Нэгатыўны момант – вашая паштоўка нікога не прабірае. На дапамогу сьпяшаюцца санітары з *Навінак*. Мы прапануем сэрыю калядных і навагодніх паштовак, нафаршыраваных акалічнасьцямі беларускай штотыднёвай экзыстэнцыі. Палітыка, сацыялка, эканоміка, культура, рэлігія... Сюжэты нашых паштовак ілюструюць усе аспэкты паўсядзённага быту беларусаў усіх калібраў і, натуральна, праблемныя моманты, блізкія яго фэміналягічнай сутнасьці. Выражце іх, наклейце на звычайную паштоўку і дашліце сваім родзічам або знаёмым. І паміж вамі ўзьнікне сапраўдная навагодняя камунікацыя.















